# КРЫВІЯ

**Выданьне беларускае нацыянальнае меншасьці ў Чэхіі**

**№31 Верасень - Лістапад 2013**

**Культурна-асьветніцкая газэта**


## З Ь М Е С Т



## Беларуская Чэхія

### Часопіс беларускае прозы і мастацтва МАКУЛАТУРА чытаў прозу ў Празе! 23. 09. 2013

Ласкава запрашаем вас на літаратурна-мастацкі вечар, дзе галоўны рэдактар Сяргей Календа і галоўны мастак Васіліса Паляніна-Календа распавядуць пра мастацтва і літаратуру незалежнага, непадцэнзурнага часопісу **Макулатура**, а таксама пачытаюць урыўкі з найбольш цікавых тэкстаў пісьменьнікаў, якія трапілі на старонкі нумароў “Макулатура 3 – Без Галавы” і “Макулатура 4 – Дзёньнікі па Англіі”.

**Мэта часопісу Макулатура** – культурніцкая, разьвіць сучасную беларускую літаратуру й мастацтва, пазнаёміць чытачоў з замежнымі перакладамі. На дадзены момант у Беларусі хапае высока-якасна надрукаваных часопісаў, але не стае часопісаў кшталту Макулатуры, якія б імкнуліся да культурнага ўзбагачэньня, і на адным узроўні працавалі як з пісьменьнікамі, так і з мастакамі. Макулатура імкнецца дапамагаць маладым творцам, шукае мастацкія скарбы, якія па-сапраўднаму былі б цікавыя ня толькі самім беларусам, але і за мяжою. Часопіс спрабуе зьмяніць цяперашні стан краіны мастацкімі сродкамі, падымае сацыяльныя, культурныя, мастацкія і грамадзкія праблему ў сьвеце.

Макулатура імкнецца зацікавіць людзей у літаратуры, заахвоціць чытаць беларускіх аўтараў, якія ня менш цікавыя за сучасных, але якія знаходзяцца ў пэўным маргінэзе.

Часопіс сам па сабе андэргваўндны, валанцёрскі, непадцэнзурны й аддае перавагу сьмелым эксперымэнтам, на яго старонках магчыма знайсьці як вядомых творцаў, так і пачаткоўцаў, бо асноўная ідэя - гэта што ўсе сапраўдныя творцы, ня вызначаюцца празь вядомасьць і невядомасьць, пачатак і сталы пісьмовы ўзрост, ёсьць сам па сабе акт творчасьці, які па-сутнасьці ўсіх робіць ад пачатку роўнымі. Каманда часопісу імкнецца папулярызаваць якаснае, прыгожае пісьменства і мастацтва й зьдзейсьніць культурны абмен сярод усіх краін сьвету.

Сяргей Календа і Васіліса Паляніна-Календа

# Алесь Бяляцкі атрымаў прэмію Вацлава Гаўла

Прэзыдэнт Парлямэнцкай асамблеі Рады Эўропы абвясьціў Алеся Бяляцкага ляўрэатам прэміі імя Вацлава Гаўла на восеньскай сэсіі ў Страсбургу.

Жонка Алеся Бяляцкага, Натальля Пінчук, якая прысутнічае на цырымоніі ў Страсбургу, сказала у сваёй прамове, што Алесь  ад самага пачатку свайго шляху змагаўся за незалежную і дэмакратычную Беларусь. Натальля Пінчук нагадала пра іншых беларускіх палітзьняволеных, і падкрэсьліла, што іх вызваленьне павінна быць ўмовай кантактаў з уладамі Беларусі.

Вось кароткі зьмест (пераказ) яе прамовы:

«Барацьба за абарону  правоў людзей стала асновай для стварэньня праваабарончага цэнтру «Вясна» ў 1996 годзе.. Алесю нялёгка, ён у больш жорсткіх умовах, чым іншыя вязьні, яго абмяжоўваюць у кантактах з блізкімі ды іншымі вязьнямі, ён зазнае моцны ціск адміністрацыі. Улады ўсялякімі спосабамі дамагаюцца, каб Алесь напісаў пакаяньне на імя Лукашэнкі. У турмах Беларусі яшчэ 10 палітвязьняў, якія зрабілі свой выбар на карысьць дэмакратыі і свабоды. Тым часам, сытуацыя з правамі чалавека ў Беларусі пагаршаецца... Я спадзяюся, што эўрапейскія структуры як гаранты і абаронцы дэмакратыі і свабоды не адступяцца ад сваёй прынцыповай  пазыцыі... Прэмія, якую атрымаў Алесь, гэта знак салідарнасьці ня толькі зь ім, але і з усёй беларускай дэмакратычнай супольнасьцю. Сымбалічна, што гэта прэмія мае імя Вацлава Гаўла. Гавэл — гэта сымбалічная постаць для дэмакратаў Беларусі. Алесь ня раз казаў, што Гавэл — гэта прыклад для яго. Незадоўга да сваёй сьмерці, Гавэл накіраваў Алесю ў турму ліст падтрымкі. Алесь піша, што для яго гэты ліст стаў праменем надзеі і салідарнасьці. Я таксама спадзяюся, што гэты прамень салідарнасьці дапаможа Алесю і яго паплечнікам выйсьці пераможцамі ў іх барацьбе за справядлівасьць...»




*Алесь Бяляцкі*

Мэта прэміі Вацлава Гаўла — заахвочваньне выбітных дзеячоў грамадзянскай супольнасьці ў абароне правоў чалавека ў Эўропе і за яе межамі.

Іншымі кандыдатамі на прэмію былі Асацыяцыя маладых юрыстаў (Грузія), Сетка абароны правоў (Кітай).

Прэмію ўручаюць штогод.

Памер узнагароды — 60 тысяч эўра.

За апошні час Алесь Бяляцкі, які знаходзіцца за кратамі, атрымаў некалькі ўзнагародаў:

узнагароду імя Пэтры Келі

узнагароду Леха Валэнсы

прэмію парталу «Хартыя’97» за выбітныя дасягненьні ў галіне абароны правоў чалавека за 2012 год.

**Даведка Радыё Свабода — справа Бяляцкага**

Кіраўнік праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі асуджаны на 4,5 году турмы ў лістападзе 2011-га. Яго прызналі вінаватым у нясплаце падаткаў. Праваабаронца сваёй віны ня прызнаў і заявіў, што ўсе грошы, атрыманыя на ягоныя рахункі, ішлі на праваабарончую дзейнасьць.

Падставай для крымінальнага перасьледу Бяляцкага стала інфармацыя пра банкаўскія рахункі, якую перадалі афіцыйнаму Менску Літва і Польшча.

Краіны Эўразьвязу, ЗША і міжнародныя праваабарончыя арганізацыі лічаць Бяляцкага палітвязьнем, а прысуд яму — палітычна матываваным. Яны патрабуюць ад уладаў Беларусі вызваліць праваабаронцу.

**Крыніца:** Радыё Свабода, 30.09.2013

---

# Прэзэнтацыя дыску С.Панізьніка “ПАД ЯСНУ ЗАРЫЦУ”

Урэшце ў спадара Сяргея Панізьніка знайшлася магчымасьць завітаць да нас у Прагу і асабіста прэзэнтаваць у клюбоўні свой дыск, выдадзены пры падтрымцы ПАГОНІ. Зьмест гэтага дыску ствараюць аўтэнтычныя сьпевы старэйшых жыхароў Мёршчыны, запісаныя сп. Сяргеям цягам 1968-69 гадоў.

Запрашаем усіх на прэзентацыю дыску ў гэтую нядзелю 20-га кастрычніка, пачатак у 18.00!

Сп. Сяргей Панізьнік  распавядзе пра ідэю і гісторыю стварэньня дыску, пра выканаўцаў сьпеваў і адкажа на нашыя пытаньні. Прэзэнтацыю будзе суправаджаць багатая музычная праграма з удзелам нашых ганаровых гасьцей: Сяржука Доўгушава, Алеся Ясінскага і (пакуль што пад пытаньнем) Ірыны Мазюк.

Сьціслая інфармацыя пра нашых госьцяў:



*Сяргей Панізнік*

Беларускі паэт, празаік і публіцыст; мае псэўданім Сяргей Папар. У зборніках паэзіі “Кастры Купалля” (1967), “Палявая пошта” (1972), “Крона надзеі” (1975), “Чало і век” (1979), “Слова на дабрыдзень” (1982), “Мацярык” (1984), “Стырно” (1989), “А пісар земскі...” (1994), “Сустрэча роднасных сусьветаў” (1997) – услаўляе родны край і яго духоўную спадчыну, пераемнасьць пакаленьняў, па філасофску разважае над часам і гісторыяй свайго народу. Аўтар кнігі публіцыстыкі “Пасьля вогненных вёсак...” (1980), дакументальнай аповесьці “Браніслава” (1985), “Асьвейская трагедыя” (1992) пра Саласпілскі лагер сьмерці. Піша для дзяцей: зборнікі вершаў “Адкуль вясёлка п’е ваду” (1981), “Жыцень” (1986), “Мы – грамацеі” (1989), “Золкая зёлка” (1999). У пэрыядычным друку выступае па праблемах сучаснага літаратурнага працэсу. Член Саюзу пісьменьнікаў Беларусі (1967



*Сяргей Доўгушаў*

Сьпявак, музыка, зьбіральнік беларускага фальклору, заснавальнік гуртоў “Fratrez” і “Vuraj”, удзельнік музычнага ансамбля “Five-Storey ansamble”. Сумесна зь беларусамі Чэхіі і з суполкай “Пагоня” арганізоўвае культурныя праекты, займаецца выдаведцтвам і распрацоўкай CD беларускага аўтэнтычнага фальклору, прымае ўдзел у розных канцэртах, фестывалях Беларусі і за яе мяжой.



*Алесь Ясінскі*

Баяніст і кампазітар, адзін з заснавальнікаў гурту The Unlimited Trio, а таксама ўдзельнік шэрагу беларускіх, чэскіх і шведзкіх праектаў (BosaeSonca, Fratrez, Morph Jelen, Radka Fišarová). У сваёй творчасьці імкнецца сцерці межы паміж стылямі і падкрэсьліць суцэльнасьць музыкі, нягледзячы на розныя яе напрамкі.

## І ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ НА ЧУЖЫНЕ !

29 кастрычніка будзе адзначаць сваё 90-годзьдзе спадарыня Вольга Грыцук. Яна больш як паўвеку жыве ў канадзкім горадзе Кінгстан. А нарадзілася каля старажытнага беларускага гораду Дзісна. І я нарадзіўся недалёка ад Дзісны ў 1942 годзе. Вольга, дачка Васіля Дуброўскага, назаўсёды пакінула руіны згарэлага ад бамбёжак дома ў 1944 годзе. Праз 60 гадоў пасьля тых падзей пачалася наша перапіска і прадаўжаецца да гэтага часу. Лагоднай, чулай, зычлівай суайчыньніцы прысьвячаў вершы, дбаю, каб і на яе радзіме захаваліся добрыя згадкі пра зямлячку. Мы аднадумцы ў галоўным – у любові і павазе да свайго айчыннага мацерыка.

Невымерны патрыятызм Вольгі -- гэтай прыўкраснай галінкі на радаводным дрэве Дуброўскіх – натхняе чытача яе кнігі “Мы стваралі сваю Беларусь (Жыцьцё і дзейнасьць Аляксея Грыцука)”. Гэты зборнік выдадзены ў Мінску ў 2007 годзе. Такім чынам была ўзноўлена памяць аб адным зь лідэраў пасляваеннай эміграцыі ў Канадзе Аляксею-Алесю Грыцуку (1910—1976)—таленавітым і мужным сыне беларускага народу, які пакінуў у памяці сучасьнікаў, як пісала ў артыкуле “Ад укладальніцы” Вольга Іпатава, моцны духоўны імпульс. Сваім уступным словам “Дзякуючы ім жыла Беларусь на чужыне” далучылася да гэтага выданьня і Івонка Сурвілла, старшыня Рады БНР.

Чытачы кнігі пазнаёміліся з багатай творчай спадчынай Аляксея Грыцука – мужа спадарыні Вольгі. А пісьменьніца Вольга Іпатава правяла літаратурную апрацоўку і творчых набыткаў самой Вольгі Васільеўны --- пра Паўліну Мядзёлку, уладыку Мікалая з Таронта…

Чытаю радкі маёй зямлячкі з аповеду “Маё жыццё да сустрэчы з Алесем”: “Мая радзіма – Дзісеншчына. І дасюль, як заплюшчу вочы, бачу свой родны дом, над якім узыходзіць сонейка, росныя ранкі, прыгожую беларускую прыроду. Усё гэта застаецца з чалавекам навечна, і я не магу зразумець тых, хто лёгка забываецца на сваю зямлю, сваю родную мову, на ўсё тое, што робіць чалавека чалавекам”.

Вольга Грыцук, натхнёная сваім мужам, стала актыўнай дзяячкай беларускага руху. У 1965 годзе яна была адной з арганізатараў Згуртавання беларускіх жанчын Канады. У 1975-м абрана старшынёй ЗБЖ і ўзначальвала Згуртаваньне да 1993 году. Узгадваю, як я быў расчулены кароткім аповедам спадарыні Вольгі пра дзяўчынку Лену, якая была “…жывой кветачкай з роднай Беларусі”. І ня толькі Лену ратавала ад чарнобыльскіх хваробаў Вольга Грыцук і салідарныя зь ёю жанчыны Канады. Ізноў невялікая цытата з названай кнігі Вольгі Грыцук: “Тут, у Канадзе, мы адбудавалі сваю Беларусь, мы стварылі яе наўзамен той,якую страцілі і аб якой заўсёды марылі. Як маглі, стараліся працаваць дзеля яе…”

Лісты зь Беларусі Вольгі Грыцук на маю паэтычную Беларусь, у прыдзьвінскае незабытае юнацтва станавіліся цытатамі ў маіх вершах. І за гэта пасылаю вялікую падзяку ў Канаду.

Сёлета спадарыня Вольга ўжо адзначыла адну незабыўную падзею – 55-годдзе яе шлюбу з Аляксеем-Алесем, якому яна аддала ўсю сваю любоў і ласку. А юбілей поўні жыцця канадзкай беларускі-крывічанкі –- лагодная магчымасьць падзякаваць ёй за велічнасьць духу, ахвярнасьць, узбагачэньне медаe носнага нацыянальнага вулея, перадаць "гаспадыні, сьлічнай пані" пажаданьне з нашай прыдзьвінскай вялічальнай песьні: "У тваім дамку – як у райку! Няхай так будзе!".



*Вольга Грыцук*

## І зьдзейсьніцца Дзісна !

**«Мая радзіма -- Дзісеншчына. ...**
**І я не магу зразумець тых,**
**хто лёгка забываецца на сваю**
**зямлю, сваю родную мову на ўсё, што**
**робіць чалавека чалавекам»**

**Вольга Грыцук з дому Дуброўскіх**

**Жыла ў Дзісьне з Дуброўскімі, Ластоўскімі,**
**тут чула Жаўняровіча псалмы...**
**Дасюль Дзісна ні крыгамі, ні войскамі**
**ня зьмецена: тут Адзігітрыя і мы.**
**Да Друі, да Лявонпаля, да Браслава**
**схіляюца чупрыны курганоў.**
**І сёньня ёй, Васільеўне, прыўкраснага**
**тут вельмі многа для паромаў-сноў.**
**Дарожкаўскую вуліцу з каштанамі,**
**муры, капліцу помніла дзяўчо...**
**...Пранесьліся нягоды -- ураганамі**
**і пад спадзеў падстаўлена плячо.**
**Каханейка пякучае ня стоміцца**
**зьбіраць сьляды дзяцінства ля Дзьвіны...**
**Ёй зьдзейсьніцца Дзісна! Вярба памоліцца,**
**каб наша суайчыньніца-патомніца**
**прыйшла на фэст пад родныя званы.**
**6.09. 2013, Сяргей Панізьнік**

## Аўтарскі курс па спевах Сяргея Доўгушава

***Прапануем Вашай увазе курс "Асновы вакалу"!***

«Не патрабуецца быць сьпеваком для таго, каб валодаць сваім голасам. Трэба толькі ведаць, як дыхаць, і навучыцца ствараць гук».



Калі Вы заўсёды марылі сьпяваць, але так і не вырашылі паспрабаваць - прыйшоў час. Курс прызначаны для ўсіх жадаючых, з музычнай адукацыяй і безь яе, з досьведам і без. Галоўнае - жаданьне!:) Курс прадугледжвае 6 заняткаў і магчымасьць прапрацаваць прыватныя пытаньні кожнаму ўдзельніку.

На занятках: - Вы даведаецеся, што па сутнасьці ёсьць голас, і атрымаеце асноўныя навыкі сьпеваў; - Вы пачуеце свой натуральны голас і адчуеце яго сілу і магчымасьці; - Вы будзеце сьпяваць і перастанеце гэтага баяцца.

У працэсе навучаньня: - кожны з удзельнікаў атрымае першапачатковыя навыкі пра гук, голас, апору і дыханьне; - навучыцца імправізаваць, тварыць і ствараць самастойна свае музычныя формы, мелодыі; - набудзе ўменьне кіраваць сваім голасам, дыханьнем, сілай гуку; - навучыцца сьпяваць песьні на беларускай і на іншых мовах.



*Сяргей Доўгушаў*

Час правядзеньня вячэрні, падбіраецца больш зручны для групы. Кошт аднаго занятку - 50 крон. Арганізацыйная сустрэча прайшла на клюбоўні 25-га кастрычніка, тады быў прызначаны час правядзеньня першага занятку - пятніца 1-га лістапада, ў 18:30. Агульны працяг курсу - прыблізна адзін тыдзень.

Да першага занятку могуць далучыцца і тыя, хто ня прысутнічаў на арганізацыйнай сустрэчы (але не пазьней).

**Крыніца:** http://pahonia.cz, 22 кастрычнік 2013

# Дзяды ў Празе

2-га лістапада 2013 г. пражскія беларусы паводле старой традыцыі сабраліся на Альшанскіх могілках, дзе былі пахаваныя прэзыдэнты Рады БНР Пётра Крэчэўскі, Васіль Захарка і сьпявак Міхась Забэйда-Суміцкі. Ля магілы Пётры Крэчэўскага Віталь Цімошчанка заіграў на дудзе.

Абрад працягнула традыцыйная паніхіда айца Андруся Абламейкі.



Пасля гэтага беларусы перайшлі да магілы Васіля Захаркі, дзе айцец Андрусь таксама правёў паніхіду і ўсе разам засьпявалі “Магутны Божа”.

Ля магілы Міхася Забэйды-Суміцкага гучала музыка ў выкананні Віталя Цімошчанкі й Сяргея Доўгушава.

Беларусам былі паказаныя фатаздымкі спадара Міхася, якія незадоўга да гэтага нам даслаў Сяргей Панізьнік. Частка зь іх была зробленая самім сп. Сяргеям у 1970 г. у Празе на кватэры Забэйды па адрасе Polská 12, астатнія ўзяты з архіву сьпевака.

У гонар ушанаваньня памяці памерлых ў клюбоўні адбыўся канцэрт Сяргея Доўгушава. На ім прагучалі песьні на вершы Ўл. Караткевіча, А. Сыса ды некаторыя народныя



**Крыніца:** http://pahonia.cz, 2 лістапада 2013

**ВІНШУЕМ з НАРОДЗІНАМІ!**

**у КАСТРЫЧНІКУ:**

**Ніну Скеп’ян**

**у ЛІСТАПАДЗЕ:**

**Адася Калюту**

# Міхась Забэйда-Суміцкі

Фатаздымкі славутага беларускага спявака, якія нам даслаў Сяргей Панізьнік. Фатаздымкі ў пражскай кватэры Забэйды-Суміцкага (ул. Polská 12) і ў Рыегравых садах зрабіў сам С.Панізьнік.

**Крыніца:** http://pahonia.cz, 2 лістапада 2013



*З архіву Міхася Забэйды-Суміцкага, Прага, 1970*



*На кватэры Забэйды-Суміцкага, Прага, 1970*



*З архіву Міхася Забэйды-Суміцкага, Настаўнік з выхаванкамі Прага, 1970*

# ПАД ПРАЖСКАЙ ЗАРЫЦАЙ

Раскрыляцца песьні,
каб нацыю несьці
туды, дзе свабода --
пад ясну зарыцу.
…Спаўна ганарыцца
такому народу:
мы гучныя – зроду!

*(З вершу С. Панізьніка, прысьвечанага С. Доўгушаву)*

Сёлетняй вясной на сайце Грамадскага аб'яднаньня "Пагоня" пазначалася, што выйшаў дыск "Пад ясну зарыцу" (Песенна-абрадавая традыцыя Мёршчыны па матар'ялах аўдыёкалекцыі С. Панізьніка. Запіс 1968-69 гадоў). Удакладнялася, што дыск, выдадзены пры фінансавай падтрымцы суполкі "Пагоня", вельмі прыгожа распрацаваны: на яго старонках змешчаны 11 фотаздымкаў зь вершамі, а на вокладцы – той самы бабышаўскі дом, які калісьці быў напоўнены каранёвым меласам – каляндарнымі, вясельнымі, хрэсьбіннымі і іншымі песьнямі.

Выхад дыску аўтэнтычнага фальклору зьдзейсьнены дзякуючы падтрымцы Андрэя Гайко, Віталя Цімошчанкі, суполкі "Пагоня" (Прага). А падрыхтоўкай яго займаліся сьпявак, музыка, фальклярыст Сяржук Доўгушаў і дацэнт Таццяна Бярковіч – загадчыца кабінету традыцыйных музычных культур Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, дзе і захоўваюцца фальклорныя запісы С. Панізьніка.

У канцы кастрычніка сайт паведамляў, што ў сп. Панізьніка знайшлася магчымасьць завітаць у Прагу і прэзэнтаваць свой дыск у Беларускай клюбоўні на вуліцы 5 красавіка. Ён распавёў пра ідэю і гісторыю запісу песень з Бабышак, Даўгінава, Лявонпаля – ад Адэлі і Альжбеты Панізьнікаў, Гені Адамовіч, Зіны Кліманскай, Ліды Шук, Маруты Пальчэх, Ядзвінні і Андрыяна Кіслякоў, Вольгі Грэцкай, Марылі Кезік, а таксама ад мамы Ганны Панізьнік.

Сп. Сяргей зачытаў шмат сваіх вершаў, напісаных пад узьдзеяннем песень землякоў. Госьці той сустрэчы пачулі ўсплескі народнай мудрасьці – прымаўкі, павучаньні, прыбабунькі, пацешкі, пачутыя ім пры запісах аўтэнтыкі.

У гонар прэзэнтацыі Сяржук Доўгушаў выканаў песьню з дыску "Хадзіў Раёк…", запісаную 45 гадоў таму ад Маруты Пальчэх з Даўгінава. Да яго далучыўся баяніст і кампазітар Алесь Ясінскі: з Сяржуком яны прадставілі цікавую музычную праграму. А набытыя дыскі чакалі аўтографа госьця.

Сп. Сяргей і раней бываў ў Празе, але даўнавата. Таму новыя сябры наведалі разам зь ім дом сп. Юркі Станкевіча – найстарэйшага пражака, пабылі ля помніка Ф. Скарыну, пакланіліся на Альшанскіх могілках помнікам М. Забэйду-Суміцкаму, В. Захарку, П. Крэчэўскаму… Былі і ў царкве сьвятых Кузьмы і Дзям'яна, дзе малебны вядуцца на нашай роднай мове. Шэсьць стагодзьдзяў налічвае беларуска-чэскае гістарычнае і культурнае сужыцьцё. Нашы суайчыньнікі-сучасьнікі ганарацца, што існуе афіцыйнае прызнаньне беларусаў у якасьці нацыянальнай меншасьці ў Чэскай Рэспубліцы, што, акрамя суполкі, дзеіць Беларуская нядзельная школа ў Празе, выдаецца культурна-асветніцкі часопіс "Крывія"… Таму і надалей будзе прымаць гасьцей Беларуская клюбоўня на вуліцы 5 красавіка ў Празе. Бо, як згадваў сп. Сяргей Панізьнік словы свае маці, – "Жыць зь людзьмі трэба так, каб слова на дабрыдзень пакідаць", гэта значыць -- для новых вітальных сустрэчаў.

## НАВІНЫ з Бацькаўшчыны

### Зьміцер Дашкевіч на волі

Лідэр «Маладога фронту» быў вызвалены з гарадзенскай турмы 28 жніўня ў 6.20 раніцы. Каля варотаў турмы Зьмітра Дашкевіча сустракала ягоная жонка — Наста, журналісты і сябры, якія чакалі яго ўсю ноч. Першае відэа і фоты.

Падчас імправізаванай прэс-канфэрэнцыі, якая адбылася на рагу вуліц Гараднічанскай і Кірава, Дашкевіч заявіў, што адчувае сябе здаровым, ён падзякаваў усім за падтрымку, якую адчуваў за кратамі і заявіў, што плянуе працягваць сваю ранейшую дзейнасьць.

Ён сказаў, што гэтую апошнюю ноч перад вызваленьнем правёў спакойна, без напружаньня, бо сыстэма «ўжо добра вышкаліла яго».

Пра стаўленьне да сябе ў турме Дашкевіч распавёў, што адміністрацыі розных турмаў спрабавалі выкарыстоўваць зьняволеных дзеля таго, каб яны ўплывалі на яго, але пераважна паўсюль ён атрымоўваў падтрымку.

Дашкевіч: «Падтрымоўвалі асуджаныя і нават прадстаўнікі адміністрацыі, бо ўсе чытаюць незалежныя СМІ. І я хацеў бы падзякаваць журналістам і тым людзям у гарадзенскай турме, зь кім я мог перасякацца, і ў іншых турмах, а таксама супрацоўнікам, бо нехта мог падтрымаць словам, нехта мог прынесьці гарачай гарбаты альбо яблык. Канешне, не магу сказаць, дзе гэта было і хто гэта быў, але гэтыя людзі ведаюць, і я ім вельмі ўдзячны. Прыйдзе час і я ім асабіста падзякую».



Не хавала радасьці і жонка Зьміцера Дашкевіча — Наста:

«У мяне супэрскія адчуваньні зараз, самыя лепшыя, я рада, што ўсё добра, я рада яго бачыць, як па мне, дык ён цудоўна выглядае, а таму ўсё добра».

* * *

Зьміцер Дашкевіч быў затрыманы — паводле афіцыйнай вэрсіі — за хуліганства напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў 2010 года і асуджаны на 2 гады пазбаўленьня волі. Аднак у 2012 годзе выязным судом ён быў асуджаны да яшчэ аднаго году зьняволеньня, нібыта, за непадпарадкаваньне супрацоўнікам міліцыі.

**Крыніца:** Радыё Свабода, *Ігар Карневіч,* 28. 08. 2013

# Прадстаўнікі дэмсілаў падтрымалі ідэю стварэньня грамадзянскага альянсу “Талака”

У Менску апазіцыя ўхваліла Мэмарандум аб стварэньні альянсу «За сумленныя, справядлівыя выбары дзеля лепшага жыцьця. Талака». Кааліцыя аб’яднае шэраг апазіцыйных палітычных партыяў і рухаў, а таксама грамадзкіх арганізацыяў. Мэта кааліцыі – вяртаньне грамадзянам права на выбар, – кажа лідар АГП Анатоль Лябедзька.

- Галоўная мэта – вярнуць людзям права выбару. Гэта пытаньне, без вырашэньня якога немагчыма раз лічваць на перамены ў Беларусі. Гэта сама галоўнае. Ніколі свабодныя сумленныя выбары ня былі галоўным у пасланьні да людзей, да грамадзтва. Прыйшоў час гэта зрабіць. Менавіта ўсе праграмы, якія ў нас ёсьць, усе нашыя бачаньні, напрацоўкі, яны могуць быць рэалізаваны толькі пры ўмове, калі ў Беларусі адбыліся б сумленныя, справядлівыя выбары.

Старшыня партыі левых “Справядлівы сьвет” Сяргей Калякін адзначае, што галоўная мэта кааліцыі - аб’яднаць высілкі для вяртаньня людзям права выбіраць і кантраляваць уладу.

- Для таго, каб гэта зьдзейсьніць, трэба прыцягнуць да гэтага працэсу саміх людзей. Гэта галоўная задача. На жаль, у Беларусі сам працэс выбараў, палітычны працэс – ён ідзе асобна, і жыцьцё людзей праходзіць асобна. І людзі ня зьвязваюць свае праблемы - матар’яльныя, сацыяльныя, эканамічныя, палітычныя - з тым, што яны пазбаўлены права выбару. Таму нашая задача – правесьці шырокую інфармацыйную, мабілізацыйную і арганізацыйную кампанію, каб зьмяніць сітуацыю.

* * *

На беларускай палітычнай сцэне зьявіцца новая апазіцыйная кааліцыя. Яе маюць намер стварыць сем структур, сярод якіх Аб’яднаная грамадзянская партыя, Беларуская партыя левых „Справядлівы сьвет” ды іншыя суб’екты. Сёньня а 12-ай гадзіне ў Менску кааліцыя правядзе канферэнцыю з удзелам вылучаных у рэгіёнах дэлегатаў.

На ёй будзе падпісаны тэкст-дакумент палітычнага аб’яднаньня, - кажа лідар АГП Анатоль Лябедзька.

- Мы ўчора зрабілі апошні восьмы крок – гэта была восьмая рэгіянальная канферэнцыя, на якой былі вызначаны дэлегаты ад Менскай вобласьці. А сёньня адбудзецца ўстаноўчая канферэнцыя, пасьля якой можна сказаць, што кааліцыя будзе існаваць ня толькі дэ-факта, але і дэ-юра.

Мэта кааліцыі – вяртаньне грамадзянам права на выбар. Анатоль Лябедзька падкрэсьліў, што новая кааліцыя будзе таксама абмяркоўваць пытаньне вылучэньня адзінага кандыдата ў прэзідэнты на выбарах 2015 году.

**Крыніца:** Анна Шайкоўская, Беларускае Радыё Рацыя 22.09.2013

# Павел Севярынец на волі

Сёньня раніцай выйшаў на волю Павел Севярынец. Палітычнага вязьня ўначы вывезьлі з папраўчай установы ў вёсцы Куплін Пружанскага раёну ды пасадзілі на цягнік Берасьце-Масква.

Цяпер ужо былы палітзьняволены сустаршыня Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі расказаў Беларускаму Радыё Рацыя, што было для яго ў зьняволеньні самым цяжкім:

- Тое, што проста ня мог дапамагчы блізкім людзям альбо сябром, таму што быў абмежаваны ў перамяшчэньні. Што падтрымлівала? Малітвы. Малітвы сяброў, братоў і сёстраў у Хрысьце. Падтрымлівалі блізкія людзі, матуля, каханая дзяўчына.

Павел Севярынец адзначыў таксама, што будзе імкнуцца рабіць усё магчымае, каб паскорыць вызваленьне астатніх палітычных вязняў. Ён заявіў, што мае намер працягваць займацца грамадзка-палітычнай дзейнасьцю.

* * *

Некаторых журналістаў і грамадскіх актывістаў, якія прыйшлі сустракаць з “хіміі” Паўла Севярынца, затрымала міліцыя. Усе яны ўжо адпушчаныя. Пра прычыну затрыманьня, якую агучылі праваахоўнікі, кажа актывістка Ганна Шапуцька:

- Яны сказалі, што мае кветкі з бел-чырвона-белай стужкай – гэта незарэгістраваная сімволіка. І яны павінны былі не дапусьціць мітынгу і незарэгістраванай сімволікі. Але яны казалі, што быў загад толькі кветкі забраць, але яны яшчэ і мяне затрымалі.

Як адзначыла Ганна Шапуцька, у пастарунку ня былі складзеныя пратаколы на затрыманых. Узятая была толькі падрабязная інфармацыя.

* * *

Кіраўнік Праваабарончага альянсу, былы дэпутат Вярхоўнага Савету трынаццатага скліканьня Людміла Гразнова была сярод сустракаючых вызваленага палітыка Паўла Севярынца. Па яе словах, малады палітык відавочна ня зломлены няволяй:

- Павел добра выглядае, памаладзеў, поўны аптымізму. У гэтым жыцьці ўсё хутка мяняецца. Галоўнае – ня траціць надзею. Ня ўсё так цяжка і сумна. Жыцьцё працягваецца, і ў канцы тунэлю бачны сьвет!

Сярод затрыманых аказаліся таксама сустаршыня Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі Віталь Рымашэўскі, каардынатарка грамадзкай ініцыятывы “За волю” Ганна Шапуцька, прэсавы сакратар Беларускай асацыяцыі журналістаў Барыс Гарэцкі. Аднак, цягам гадзіны ўсе былі вызвалены з аддзелу міліцыі.

* * *

Ужо былы палітычны зьняволены Павел Севярынец, якога ўначы вывезьлі са спецкамендатуры ў пасёлку Куплін і пасадзілі на цягнік, сустракаецца з сябрамі і паплечнікамі. На вакзале яго сустракалі некалькі дзясяткаў чалавек. Перад прыбыцьцём цягніка каля дзесяці чалавек, у тым ліку журналістаў, было затрымана. Тым ня менш тыя, хто сабраўся, сустрэлі Севярынца воплескамі і букетамі кветак:

- Дэпартацыя з “хіміі” адбывалася цікава. У 3.45 раптам пад’ём. Намесьнік начальніка камендатуры вядзе ў кабінет і аб’яўляе, што зараз мяне адвязуць на цягнік, і цягніком у 5.20 – на Менск. Не далі толкам сабрацца. Штурм вагону быў. Гэта эпічная карціна! Ён стаіць на станцыі толькі дзве

хвіліны, а рэчаў за два гады шмат набралася. Ну што сказаць, незаконна арыштавалі, незаконна судзілі і па-людзку нават выпусьціць не змаглі!

Павел Севярынец сказаў, што зараз цягам 3 дзён павінен прыбыць у Віцебск і стаць на прафілактычны ўлік. Пасьля чаго вернецца ў Менск. Як мы паведамлялі, усіх затрыманых на менскім чыгуначным вакзале журналістаў ужо адпусцілі. Вызвалены таксама сустаршыня Партыі БХД Віталь Рымашэўскі:



Павел Севярынец:

- Дзякуй Богу, дзякуй тым людзям, што сустрэлі мяне! Спадзяюся, што зараз буду змагацца за вызваленьне тых, каму цяжэй: Мікалая Статкевіча, Алеся Бяляцкага, Эдуарда Лобава, Мікалая Аўтуховіча. Буду дамагацца і таго, каб спынілі крымінальную справу ў дачыненьні да Андрэя Жукаўца, якога судзяць у Польшчы. Ну а затым – праца Беларускай Хрысьціянскай Дэмакратыі, кнігі і асабістае жыцьцё.

Аднак гэтае пытаньне пра будучае вясельле Павел Севярынец каментаваць адмовіўся. “Трэба трошкі пачакаць. Нам трэба зьезьдзіць зь дзяўчынай да яе бацькоў”, - сказаў Севярынец. Ягоная дзяўчына Вольга таксама была на вакзале. Але ад каментароў яна таксама адмовілася.

Паўла Севярынца павінны былі вызваліць прыкладна а 10-ай гадзіне раніцы. Таму яшчэ ад сёмай гадзіны каля камендатуры ў вёсцы Куплін яго ўжо чакалі некаторыя сябры і паплечнікі. Тое, што Паўла вывезьлі ўначы, кажуць, сведчыць пра боязь уладаў перад шматлюднай сустрэчай:

- Апошнім часам улады такога не рабілі. У Гародні Дашкевіча сустракалі своечасова, як ён і павінен быў выйсьці. У Баранавічах выходзілі палітвязьні таксама ў той час, у які мусілі выйсці. Відаць, Павел – знакавая асоба, калі ўлады так перасьцерагаюцца, каб не зрабілі часам нейкага мітынгу. Пабаяліся.

Адзначым, што за кратамі застаецца яшчэ 10 палітычных вязьняў.

* * *

Улады не далі магчымасьці сустрэць журналістам, сябром і паплечнікам вызваленага Паўла Севярынца, у якога сёньня скончыўся тэрмін адбыцьця зьняволеньня. Адзін з грамадзка-палітычных лідараў апазіцыі быў вызвалены сёньня ноччу каля трэцяй гадзіны ночы, вывезены з вёскі Куплін Пружанскага раёну і пасаджаны на станцыі Аранчыцы на цягнік да Менску. У сталіцы на вакзале было затрымана каля дзесяці журналістаў, якім не далі магчымасьці сустрэць Севярынца. У ліку іх журналіст Беларускага Радыё Рацыя Барыс Гарэцкі. Затрыманы таксама адзін зь лідараў партыі БХД Віталь Рымашэўскі, які паведаміў пра гэта журналісту Радыё Рацыя праз тэлефон з амапаўскай машыны.

Былі затрыманыя журналісты Ягор Маёрчык, Алесь Пілецкі, Сяргей Гудзілін, Дзяніс Носаў, Аляксандар Васюковіч, Віталь Ругайн, Таксама ведама, затрыманыя Барыс Гарэцкі і яшчэ чацьвёра журналістаў, сярод якіх Захар Шчарбакоў, Андрэй Корсак, Надзея Гацак. Была затрыманая і грамадзкая актывістка Ганна Шапуцька, якая была зь бел-чырвона-белай стужкай.

Журналістаў завезьлі ў пастарунак, дзе іх прымусілі выключыць мабільныя тэлефоны і перапісалі асабістыя дадзеныя. Пазьней туды прыехаў начальнік менскай міліцыі Аляксандар Барсукоў, пасьля чаго журналістаў адпус цілі. Пра гэта праз тэлефон паведаміў Барыс Гарэцкі :

- Я чакаў цягніка, у якім мусіў прыехаць Павел Севярынец, да журналістаў падыйшлі міліцыянты, нічога не тлумачачы папрасілі прайсьці зь імі ў аддзяленьне. Ясна, што мы, як законапаслухмяныя грамадзяне, пайшлі зь імі. Такім чынам, было затрымана больш за 10 супрацоўнікаў сродкаў масавай інфармацыі. У самім аддзяленьні да журналістаў прымянялася фізічная сіла. Іх сілай прымусілі выключыць тэлефоны. Ва ўсіх перапісалі дадзеныя. Міліцыянты паводзілі сябе вельмі нахабна, паказвалі, што ніякае права ў іхнай структуры ня дзейнічае. Пасля прыйшло кіраўніцтва і загадала ўсіх вызваліць. Прычым вельмі зьдзеклівым тонам, сказаўшы: “Усё, гуляйце!”

# Віктар Івашкевіч адыйшоў...

У менскім шпіталі на 55-м годзе жыцьця пасьля цяжкай і працяглай хваробы памёр беларускі грамадзкі і палітычны дзеяч Віктар Івашкевіч. У яго была хвароба печані, ён доўга чакаў донара, але так і не дачакаўся.

Віктар Івашкевіч нарадзіўся 21 верасьня 1959 года ў Менску. З пачатку 1980-х браў удзел у моладзевым нацыянальным руху, быў чальцом першых паўпадпольных незалежных суполак «Майстроўня» і «Талака». З 1988 – у Беларускім Народным Фронце. Быў рэдактарам газеты “Рабочы”.

У кастрычніку 2002-га быў пакараны двума гадамі абмежаваньня волі за публікацыю артыкулу “Злодзей павінен сядзець у турме», у якой пракуратура ўбачыла паклёп на прэзідэнта.




Віктар Івашкевіч быў намесьнікам старшыні Партыі БНФ да 2009 года. Да лютага 2011-га – кіраўнік гарадзкой арганізацыі БНФ. Але ў лютым абвесьціў пра выхад з партыі з-за нязгоды з пазіцыяй, якую заняў былы кандыдат у прэзідэнты Рыгор Кастусёў.

Быў членам аргкамітэтупартыі «Беларускі рух».

**Крыніца:** Беларускае Радыё Рацыя, 05.10.2013

## Беларусь у сьвеце

15 верасня (нядзеля) у Беларускім грамадзкім цэнтры пры Царкве сьв. Еўфрасіньні Полацкай ў Саўт-Рыверы (Нью-Джэрсі, ЗША) адбылася прэзентацыя кнігі Я. Запрудніка «Belarusian Festivals & Exbitions in New Jersey».

Кніга Я. Запрудніка выйшла ўлетку на дзвюх мовах. Спачатку прыводзіцца тэкст на англійскай мове, затым — па-беларуску.

Я.Запруднік апісвае фестывальную дзейнасьць у Нью-Джэрсі — штаце, дзе канцэнтравалася асноўная беларуская дзейнасьць, было шмат арганізацый, трывалыя асяродкі і праваслаўныя прыходы. Адміністрацыя Нью-Джэрсі ў 1975 г. прапанавала беларусам правесьці ўласны этнічны фестываль. Першы фестываль з некалькімі тысяч удзельнікаў прайшоў 12 чэрвеня 1976 г. у цэнтры мастацтваў у Голмдэле, а прывітальную тэлеграму даслаў прэзідэнт Джэралд Форд.

Я.Запруднік падрабязна апісвае падрыхтоўку да фестываляў, іх прабег, канцэртную праграму, друкуецца шмат фатаграфій.




***

Янка Запруднік нарадзіўся 9 жніўня 1926 г. у Міры (сёньня — Карэліцкі раён). З 1944 г. на эміграцыі. Скончыў гістарычны факультэт Лювенскага ўніверсітэта ў Бельгіі (1954). 37 гадоў працаваў журналістам-рэдактарам-прадусарам Беларускай рэдакцыі Радыё Свабода. Выкладаў гісторыю Расіі ў Куінс-каледжы Нью-Ёркскага гарадзкога ўніверсітэту, а таксама гісторыю і палітыку ў Гарыманаўскім інстытуце Калумбійскага ўніверсітэту. Аўтар некалькіх кніг, у тым ліку «Беларусь на гістарычных скрыжаваннях», «Беларускі гістарычны слоўнік», «Дванаццатка».

**Крыніца**: *Наша Ніва,* 16 верасьня 2013

## ЛІСТ ДА РОДЗІЧАЎ
### *Пасьля адведзін*

Дарагія нашы!

Тая наймілейшая краіна, дзе завязана пупавіна. Няма большага духовага задаваленьня, як адведкі родных на роднай зямлі. Мы з Надзяй ўдзячныя Богу, што нам пасьля чатырохгадовага перапынку пашчасьціла пабачыцца з вамі, пабыць у розных мясьцінах Беларусі, пажыць успамінамі, пацешыць вочы незабыўнымі краявідамі, але адначасова з болем у сэрцы пераканацца ў адыходзе з практычнага ўжытку таго, што нам найдаражэйшае – роднай мілагучнай мовы.

Дарога назад у Амэрыку была камфартабельнай. Польская авіялінія абнаўляе цяпер свой флёт, і з Варшавы ў Нью Ёрк мы ляцелі новым бэінгам 787. Гэта той, у якога на пачатку году сёлета былі ўсё нейкія праблемы з батарэямі. Нарэшце наладзілі. Бэінг 787 -- гэта вялічэзная прасторная махіна. На борце 400 пасажыраў. Выгодныя сядзеньні, індывідуальныя тэлеэкраны з багатым выбарам праграмаў, добрая яда (да выбару дзьве стравы, розныя напоі, уключна зь віном і гарэлкай). Словам, ад старту да фінішу ўсё наша ліпеньска-жнівеньскае падарожжа – 10 дзён у Польшчы зь Беластокам і 20 у Беларусі – прайшло гладка, прыемна й памятна. Хочацца верыць, што сустрэча наша была не апошняй...

Цяпер тут знаёмыя пытаюцца: “Ну, як там у Беларусі?” Пытаньне ёмістае. Можа й вам будзе цікава пачуць наш адказ.

Мушу сказаць, што за мінулыя чатыры гады зьмены ў вас відавочныя. Значна пашырыўся й мадэрнізаваўся менскі аэрапорт (зь ім мы пазнаёміліся пры адлёце): значна пашырэла электроннае таблё з новымі рэйсамі, больш кіёскаў з сувэнірамі, крамаў з замежнымі бутэлькамі алькаголю й парфумэрыі, перакусачная, банкаўскае вакно ды іншае.

Пабольшала аўтастрадаў. Новыя, чыстыя, з гладкімі палосамі траўнікаў паабапал. Далейшая хада дарожнага будаўніцтва навідавоку. Прыбыло будаўнічай тэхнікі. Галоўнае, чаго не стае -- гэта аўтамабільнай і турыстычнай абслугі. Дзясяткі кілямэтраў без рэстаранчыка, без заправачнай станцыі, бязь месца адпачынку. Па-ранейшаму скупыя, або блытаныя, або зусім адсутныя на бакавых дарогах паказьнікі кірунку.

У Менску адразу ж кідаюцца на вочы гмахі новых жыльлёвых кварталаў. Гарадзкія ўлады ўжо нават робяць захады, каб прыпыніць крыху будаўнічы бум.

На вуліцах сталіцы пабольшала аўтамабіляў з павышанай доляй навейшых. Амаль у кожнага пешахода пры вуху мабільнік. Людзі выглядаюць крыху лепш апранутымі. І ўсе паранейшаму з авоськамі або мешкаватымі чыноўніцкімі партфэлямі.

Мадэрнізацыйныя зьмены заўважаюцца і ў правінцыі. Зьявіліся кватэрныя туалеты там, дзе іх яшчэ нядаўна ня было, душы зь цёплай вадой,

машыны да мыцьця бялізны. Мы былі прыемна зьдзіўленыя, пабачыўшы ў раённых Жыткавічах гіпермаркет (па-нашаму -- супэрмаркет). Вялікі выбар прадуктаў, хуткая абслуга. У суседнім Тураве пабудаваны італьянскі завод малочных прадуктаў; тут жа побач і новенькая крама з малочнымі й мяснымі вырабамі. Праўда, калі гаварыць пра заработкі й цэны, то ружовы колер зьнікае. Вочы бачаць, а кішэня не дазваляе. Сямейныя бюджэты трашчаць. Уздоўж дарогаў (падобна як і на Беласточчыне) сёй-той залатвае бюджэтныя дзіркі продажам "дароў" лесу. Але ж такіх прадаўцоў зьнікомая колькасьць. Лес далёка ня ўсім даступны. Дый транспарт каштуе. Шмат якія гараджане займаюцца "нелегальным вулічным гандлем" (тэрмін менскай адміністрацыі), змагацца зь якім улады заклікалі нядаўна міліцыю ды падаткавую інспэкцыю.

Як вынік сацыяльнай дыфэрэнцыяцыі й росту жыцьцёвага ўзроўню часткі насельніцтва, растуць і цэны. А рост цэнаў даймае якраз найбяднейшых. Жанчына ў харчовай краме: "А што ж гэта такое?! Учора батончык быў пяць тысячаў, а сёньня ўжо сем! Вось табе й падвысілі пэнсіі..." Адна рука дае, другая забірае.

Частковава прыватызаваная камэрцыя закідала рынак замежнымі таварамі, асабліва галянтарэйнага кшталту (крэмы, туалетныя прылады,біжутэрыя й г.д.). Папраўілася тэхналёгія апрацоўкі й абсталяваньня кватэраў. Замежныя тавары нагэтулькі пераважаюць сваімі якасьцямі, што ўрад мае праблему з гандлёвым дэфіцытам: валюта ўцякае за мяжу. Урад змагаецца з гэтымі ўцёкамі рознымі спосабамі, у тым ліку этыкеткамі ў крамах: "Зроблена ў Беларусі". Беларусы, будзьце патрыётамі!

За мяжу ўцякае ня толькі валюта, а й маладыя людзі ў пошуку нармальных бытавых умоваў. Наяўны прыклад: настаўнік-пачатковец зь месячнай зарплатай 175 даляраў шукае кватэры ў Менску й даведваецца, што найтаньнейшая аднапакаёўка будзе каштаваць яму 200 даляраў. Вось і ўладкуй свой быт, калі ня маеш дапамогі ад бацькоў зь дзядамі.

Густой заслонай над беларускай зямлёй павісла расейская мова й русіфікаванае маўленьне. Дэнацыяналізацыйныя ўплывы дабраліся ўжо да фанэтыкі, да цьвёрдых і фрыкатыўных гукаў беларускай мовы. У моўна зьнявечаным Менску засталіся адно бледныя сьляды нацыянальнага моўнага скарбу -- на некаторых шыльдах, на вулічных табліцах, дзяржаўных будынках ды ў гарадзкім мэтро, дзе яшчэ лашчыць слых прыемны мужчынскі барытон: "Асьцярожна! Дзьверы зачыняюцца. Наступная станцыя Купалаўская". Пры ўсім гэтым варажнечы да нашай беларускай мовы, якою мы ўсюды карысталіся, мы не адчулі. Папулярнасьць расейскае мовы, апрача ўсяго іншага, падтрымліваецца фактам, што Расея застаецца, як сказаў адзін суразмовец (які займаецца вырабам мэблі), "бяздонным рынкам збыту тавараў". Рынкавая мова – мова бытавых патрэбаў, штодзённай практыкі, мова масаў. А мова нацыянальнай спадчыны, калі яе актыўна не падтрымлівае ўрад і мясцовыя ўлады, застаецца аб'ектам абароны з боку лічаных адзінак і малалікіх групаў грамадзянаў. Трэба падкрэсьліць, што такая абарона паступова пашыраецца ў выніку праводжаньня, у дадатак да агульных заяваў пра русіфікацыю, канкрэтных практычных абарончых мерапрыёмстваў, як гэта робіць Таварыства Беларускай Мовы (ТБМ) пад старшынствам сп. Алега Трусава, або Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" пад старшынствам сп-ні Алены Макоўскай. Абаронцы беларушчыны апіраюцца на заканадаўства ці проста праводзяць мерапрыёмствы, што не пярэчаць законам. Падобныя захады даюць пазытыўныя вынікі, як нам было сказана. З псыхалягічнага боку такая тактыка вельмі карысная, бо яна дае, хоць і малыя, але наяўныя вынікі, якія трымаюць абаронцаў на духу.

Ня выключана, што акцыя маламаштабнай абароны мовы ўзьдзейвае на зьмяншэньне беларусафобіі. Ня трэба таксама выключаць з аналізу й магчымага пашырэньня ў грамадстве разуменьня беларускай гістарычна культурнай анамаліі -- існаваньне тытульнай дзяржаўнасьці бяз тытульнай мовы.

Несамавітым аднак застаецца яшчэ сярод многіх беларусаў інтэлектуальны вывіх у паглядзе на нацыянальную мову. І на самой рэчы: з далёкіх вякоў як і зь нядаўных дзесяцігодзьдзяў гучаць ва ўнісон галасы найвыдатнейшых постацяў айчыннай гісторыі, што родная мова Богам дадзеная. Пра гэта казалі й кажуць Францішак Скарына, Леў Сапега, Францішак Багушэвіч, Янка Купала, Рыгор Барадулін ды мноства іхных сучасьнікаў. Але мазгі ў нашых людзей нагэтулькі затуманеныя русіфікацыяй (або палянізацыяй), што нават тыя, хто глыбока вераць у Бога, не разумеюць свайго першароднага грэху, калі яны здаюць на пагібель Божы дар, родную мову.

На гэтым пакуль што спынімся. Паспрабуем прасеяць праз сіта развагі ўсё бачанае й чутае. Ды будзем жыць далей думкамі й мроямі пра родную Беларусь.

Самэрсэт, кастрычнік 2013

**Янка Запруднік**

## Культура й Гісторыя

# Алесь Краўцэвіч: Ва ўмовах СССР беларусам быў навязаны расейскі погляд на ВКЛ як на летувіскую дзяржаву

Канстытуцыйныя акты як Беларускай Народнай Рэспублікі, так і сучаснай Рэспублікі Беларусь, хоць і ненаўпростава, але кажуць пра Вялікае княства Літоўскае як пра адну з формаў беларускай гістарычнай дзяржаўнасці. Аднак, у заходняй гістарычнай літаратуры ў кантэксьце палітычнай гісторыі Беларусь аніяк не атаясамляецца з ВКЛ. Чаму так адбылося і што неабходна дзеля таго, каб Беларусь у заходніх гістарычных даследаваньнях па палітычнай гісторыі рэгіёну хоць часткова, але пачала атаясамляцца з ВКЛ? З гэтым пытаньнем часопіс *Belarusian Review* зьвярнуўся да вядомага беларускага гісторыка-эксперта па Вялікім княстве Літоўскім **др. Алеся Краўцэвіча.**

**Алесь Краўцэвіч:** "Гісторыя Беларусі не атаясамляецца ў масе заходняй літаратуры зь гісторыяй ВКЛ (у апошнія часы ёсьць выключэнні ў працах прафесійных гісторыкаў) па адной прычыне – спазьненьне нацыятворчага працэсу ў беларусаў у параўнаньні з суседзямі, найперш, у параўнаньні зь летувісамі.

У другой палове 19 – пачатку 20 ст. нацыянальныя рухі ў Цэнтральна-Усходняй Эўропе імкнуліся падмацаваць свае прэтэнзіі на дзяржаву ў навейшы час прысваеньнем традыцыі якой-небудзь сярэднявечнай дзяржавы.

На спадчыну ВКЛ мелі прэтэнзіі найбольш летувісы і беларусы. Летувісам пашэнціла стварыць незалежную дзяржаву пасьля Першай сусьветнай вайны, у беларусаў не атрымалася абараніць дэкляраваную БНР.

У міжваенны перыяд летувіская гістарыяграфія пры моцнай дзяржаўнай падтрымцы манапалізавала гісторыю ВКЛ і прадставіла яе як гістарычную форму летувіскай дзяржаўнасьці. Хоць, як напісаў сучасны амерыканскі дасьледчык Цімаці Снайдэр: "Літоўскія патрыёты ў пошуках выйсьця зьвярталіся да ўяўнага Вялікага Княства Літоўскага. Яны адмовіліся ад рэальнай пераемнасьці з традыцыяй раньняга Новага часу на карысьць міфу пра сярэднявечную Літву і Vilnius да Люблінскай уніі з Польшчай у 1569 г."

Той жа дасьледчык напісаў пра беларусаў: "Калі б посьпех залежаў ад вернасьці традыцыям Вялікага Княства ці ад колькасьці носьбітаў мовы, беларусы мелі б больш падстаў для аптымізму, чым усе астатнія" (Снайдэр Т., Рэканструкцыя нацый: Польшча, Украіна, Літва і Беларусь, 1569 – 1999 гг., Мінск, 2010. С. 56, 67).

Ва ўмовах Савецкага Саюзу беларусам быў навязаны расейскі погляд на ВКЛ як на летувіскую дзяржаву, якая беларусаў нібыта захапіла, а расейцы потым вызвалілі. Толькі пасьля здабыцця Беларусьсю незалежнасьці ў пачатку 90-х гадоў 20 ст. пачала разьвівацца незалежніцкая суб'ектная беларуская гістарыяграфія, якую спрабуе сёньня паўстрымаць ці цалкам зьнішчыць прарасейскі рэжым Лукашэнкі.

Аднак беларускім гісторыкам удалося і без падтрымкі, а часам пры супрацьдзеяньні ўлады пераканаць адукаваныя слаі грамадзтва, што ВКЛ было (і) беларускай дзяржавай.

Прадставіць, абараніць і пашырыць беларускую візію гісторыі ВКЛ на міжнародным полі магчыма толькі пры сфармаваньні мэтанакіраванай дзяржаўнай палітыкі. Такая палітыка даўно вядзецца ў Летуве – там нават выдаецца некалькі гістарычных часопісаў на ангельскай мове з мэтай пашырэньня летувіскага бачаньня ВКЛ – выразна спрэчнага зь беларускім.

Нам трэба сістэмная гістарычная палітыка, у тым ліку на міжнародным узроўні. Патрэбна стварэньне каардынацыйнай рады гістарычнай палітыкі ў складзе вядучых гісторыкаў, якая будзе акрэсьліваць прыярытэты навуковых даследаваньняў, прапаноўваць і зацьвярджаць тэмы навуковых даследаваньняў (і дысертацый), арганізоўваць выданьне падручнікаў, папулярных часопісаў, даваць рэкамендацыі палітыкам і г.д.

Сёньня на Беларусі палітычны рэжым Лукашэнкі вядзе хоць непасьлядоўную, але выразна антыбеларускую гістарычную палітыку з мэтай асіміляцыі беларусаў да расейцаў."

*Гэты артыкул зьявіўся па-ангельску ў **Belarusian Review,** Vol. 25, No. 3. © 2013 **The_Point Journal/Belarusian Review***

**Пра**
**АПОШНІЯ ПАДЗЕІ**
**ў жыцьці беларускай Чэхіі**
*можна даведацца на старонцы*
**http://www.pahonia.cz,**

# УСПАМІНЫ

## Беларусь : Пачаткі адраджэньня

Перад тым, як мяне ў пачатку 1992 г. прэзыдэнт Джордж В. Буш назначыў на пасаду першага амбасадара ЗША ў Беларусі, я ўжо пару разоў быў у былым Савецкім Саюзе; першы раз як дактаранд (graduate student) у 1964 г., а другі раз, як параўнальна пачатковы дыплямат пры амбасадзе ЗША ў Маскве –ад 1972 да 1975 г. У канцы 1970 гадоў мяне прызначылі ў Кіеў – адчыніць там консульства ЗША; у 1979 г. яго працу Белы Дом спыніў пасьля савецкай інвазіі Афганістану.У чэрвені 1972 мне давялося першы раз сустрэцца з тагачаснай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай; мая сям'я і я ехалі ў Маскву з майго папярэдняга назначаньня ў Нямеччыне. Мы праехалі ўпоперак Беларусі – ад Берасьця на захадзе да Воршы на ўсходзе. Шаша з Берасьця да Масквы была тады аднэй з мала дарогаў з заходняй Эўропы , якой было дазволена карыстацца чужынцам.

Якраз, перасякаючы раку Буг з Польшчы ў Беларусь, наш малы сын захварэў на сьвінку; дзеля таго мы правялі ў Менску пару дзён даўжэй, чым прадугледзіў наш падарожны план, ухвалены савецкім Мінстэрствам Замежных Справаў. (Усякія дыпляматычныя падарожжы па Савецкім Саюзе павінны былі быць загадзя ўхваленыя гэтым міністэрствам.) Напэўна мясцовыя канцылярыі КДБ былі папярэджаныя ў нашай справе -- бо амэрыканскіх дыпляматаў заўсёды лічылі шпіёнамі. Насамрэч, мы стараліся далёка не адыходзіць ад нашага гатэлю – хаця я выкарыстаў магчымасьць даўжэйшых праходак па цэнтры Менску. Калі хто за мною сачыў, я не заўважыў.

Мае ўражаньні зь Менску 1972 году шчыльна супадалі з маімі дасьведчаньнямі з 1964 г., калі я, у складзе студэнцкай групы наведаў Маскву, Ленінград, Сочы й Ташкент: срога кантраляванае асяродзьдзе навыгляд бязгумарных людзей, якія даўно прывыклі , што ім кажуць, што можна рабіць – а асабліва, што не рабіць. Паслухмянасьць бяз пытаньняў здавалася ім лепшым, або прынамсі бесьпячнейшым спосабам жыцьця. Пазнаўшы лепш Савецкі Саюз, я ўсьведаміў сабе галоўную розьніцу між камунізмам і дэмакрацыяй: пад камунізмам, усё што не даслоўна дазволена, забаронена; у дэмакратыі , усё што не даслоўна забаронена, дазволена.

У 1972 г. менскія крамы былі гэтак сама пазбаўленыя тавараў, як і тыя ў Сочы у 1964 г.; тое, што там было, выглядала параўнальна такой-жа мізэрнай якасьці. Паўсюдныя чырвоныя сьцягі абяцалі грамадзянам шмат – ды вымагалі ад іх больш (заўсёды па-расейску). Падчас майго маскоўскага службовага побыту я хутка пазнаў адзіны дазволены выхад, якім мог тыпічны савецкі грамадзянін выліць сваю фрустрацыю штодзённым жыцьцём: "кнігу скаргаў і прапановаў." Бурклівых прадаўцоў (яны былі ўсе такія ) можна было давесьці да сьлёз толькі просячы прадставіць гэту кнігу ( заўважна выстаўленай у ўсіх крамах,) ды пагражаючы зрабіць у ёй свой запіс.

Развал Савецкага Саюзу, хаця пажаданы, стварыў для Злучаных Штатаў вялікія няпэўнасьці й патэнцыяльную небясьпеку, там, дзе раней дзесяткі гадоў панавалі стабільныя, хоць і застрашальныя дачыненьні, аснаваныя на рэальнасьці Пэўнасьці Ўзаемнага Зьнішчэньня. Таму палітыка ЗША была цяпер перадусім скіраваная на мінімізаваньне магчымых наступстваў вельмі нестабільнае сытуацыі, ды адначасна на спрыяньне сталай незалежнасьці й дабрабыту ўсіх новых краінаў.

У агульным кантэксьце гэтай палітыкі нашай мэтай было разглядаць кажную новую краіну асобна – на аснове своеасаблівых абставінаў, уключна з гістарычнымі, культурнымі й моўнымі чыньнікамі. Беларусь, так як некалькі іншых савецкіх "рэспублікаў," была раней незалежнай. Яна мела сваю адрозную мову, культуру й спадчыну. Аднак, была яна таксама хіба найбольш зрусыфікаванай з усіх нова-паўсталых дзяржаваў, у вялікай меры дзякуючы свайму геаграфічнаму палажэньню між Расеяй і заходняй Эўропай, з адначасным разьмяшчэньнем на сваёй тэрыторыі непрапарцыйна вялікіх кантынгентаў савецкіх збройных сілаў. Ведама, што савецкае войска карысталася выключна расейскай мовай ; у аднолькавай меры, як іншыя усе-саюзныя ўстановы , як Камуністычная Партыя Савецкага Саюзу. Гадамі многія савецкія вайскоўцы пажаніліся й павыходзілі на пэнсію ў Беларусі. Пасьля нашага прыбыцьця ў Менск, ня было для нас неспадзявана тое, што на вуліцах была чуваць толькі расейская мова. Мы таксама хутка даведаліся, што пачуцьцё сярэдняга беларуса ў справе прыналежнасьці да свае нацыі было даволі слабое, а бяручы пад увагу параўнальна вялікі памер Расейцаў сярод насельніцтва, яно зусім ня йснавала.

Нашы доўгатэрміновыя мэты ў Беларусі ўключалі падтрымку аднаўленьня ейнае здушанае гістарычнае ідэнтычнасьці й дапамогу стаць роўнапраўным і адказным партнёрам як Злучаных Штатаў, так і ў міжнародных установах, асабліва ў Арганізацыі Бясьпекі й Супрацы ў Эўропе. Каротка-тэрміновым пяршынствам было заахвоціць Беларусь пазбыцца ядзернае зброі, што засталася на тэрыторыі Беларусі пасьля развалу Савецкага Саюзу, далучыцца да Дамовы аб Ядзерным Непашыраньні як не-ядзерная дзяржава, і прытрымацца Дамовы аб Стандартных Збройных Сілах у Эўропе. Абедзьве мэты былі дасягнутыя, хаця, як ведама, пачынаючы прэзыдэнцкімі выбарамі 1994 г. паўстала плынь назад (recidivism), якая пазьней яшчэ пахутчэла. Галоўным намерам Злучаных Штатаў было даведацца больш пра насельніцтва, у бальшыні нам незнаёмае, і беспасярэдне зь ім камунікавацца – і запэўніць яго, вельмі шчыра з нашага боку, што Злучаныя Штаты ім цікавяцца, і памогуць яму выйсьці зь цёмнай бездані савецкага камунізму.

У пачатку студзеня 1992 г. Злучаныя Штаты сталі першай краінай, якая ўдзяліла Рэспубліцы Беларусь дыпляматычнае прызнаньне. Тады, якраз як я быў заняты інспэкцыяй нашай амбасады ў Омане, я атрымаў званок зь Белага Дому, у якім мяне паведамілі пра назначаньне мяне як амбасадара ў Беларусь. Трэба было неадкладна вярнуцца ў Вашынгтон, каб

падрыхтавацца да новае місіі.

Я тады правёў пару тыдняў узмоцненым вывучэньнем атрыманага матар'ялу ; нажаль, тады яшчэ ў моўнай школе амэрыканскага Дзярж-дэпартмэнту ня было інструктара беларускае мовы. Аднак, быў ужо знаёмы з часапісам Belarusian Review. Я пазваніў рэдактару BR, Язэпу Арцюху ў Каліфорніі, і пачаў зь ім доўгія гутаркі на тэмы Беларусі – палітыку, гісторыю, ды сацыяльныя, культурныя й моўныя пытаньні . Язэп гэтак стаў першым мне добра знаёмым беларусам, хаця асабіста я зь ім сустрэўся толькі пару год пазьней. Язэп прадстаўляе тое, што ў Беларусі найлепшае: ён добра інфармаваны, празорлівы, уважлівы, ласкавы... У веку 90 год Язэп працягвае сачыць за падзеямі на сваёй радзіме; наша блізкае сяброўства таксама працягваецца.

У першым тыдні сакавіка 1992 я паляцеў з Вашынгтону ў Заходні Бэрлін; там было ўзгоднена, што мясцовая амэрыканская місія мне "пазычыць " аўтамабіль , каб магчы паехаць у Менск. Падарожжа ўпоперак Польшчы адбылося бяз прыгодаў, і каля Берасьця мы перасяклі заходнюю мяжу Беларусі.

Вось тут я мусіў пазбыцца стэрэатыпаў і выснаваў, набытых мною у маіх папярэдніх службовых візытах Савецкага Саюзу. Пераехаўшы гэтую мяжу ўжо раз раней, у 1972 г., я спадзяваўся пабачыць добра ўзброеных і адзетых, тыпічных савецкіх памежнікаў. Тым часам мяне цяпер сустрэў хаос –поўная блытаніна. Пераважна тут швэндаліся розныя людзі, у джынсах і чорных скураных куртках; выглядала, што некаторыя зь іх падарожнічалі – як я; іншыя былі магчыма чыноўнікамі памежнай службы; рэшта – хіба былі мясцовыя, цывільныя людзі, якія прадавалі на чорным рынку купоны на бэнзыну, ежу й вопратку.

Я хутка сабе ўсьведаміў, што ў гэтыя абставіны ня варта ўблытвацца; балазе, што ўдалося знайсьці некага з аўтарытэтам выпусьціць мяне на далейшую дарогу. Добра, што я пасьпеў купіць купоны на бэнзыну ад аднаго тыпа ў скураной куртцы (за даляры), бо, дзякуючы маім савецкім дасьведчаньням я быў пэўны , што рэдкія прыдарожныя бэнзынныя станцыі возьмуць ад чужынцаў толькі купленыя загадзя легальныя купоны. Рэшта падарожжа прайшла бяз прыгодаў; мы прыбылі ў Менск у прыгожую зімовую нядзелю.

Гэтая памежная сцэнка была для мяне хіба найбольш вобразнай з таго, што тады адбывалася ў цэлай раптоўна зноў незалежнай Беларусі. Людзі, якія цяпер асабіста перажывалі магутныя нечаканыя сударгі, здаецца, былі запраўды разгубленыя скананьнем адзінае дзяржавы, якую бальшыня зь іх калі-колечы знала – Савецкага Саюзу. Наагул, я-б сказаў, што закона-паслухмяная бальшыня імкнулася зразумець і спакойна, грамадзянскім спосабам рэагаваць на ўсімі перажываную траўму. Але, я не адчуваў сярод людзей на вуліцы такую меру эўфорыі й вызваленьня дзякуючы магчымасьці нарэшце ськінуць ярмо савецкага камунізму, пра якую паведамлялі ў іншых суседніх краінах –прыкладам у Летуве. Пара перажытага савецкага дазнаньня трывала ў Беларусі занадта доўга. Хутчэй, здаецца, запанаваў настрой прадчуваньня, няпэўнасьці, што будучыня прынясе – як краіне Беларусі, так і кажнаму асабіста.

Урад Беларусі пачаў выдаваць собскую нацыянальную валюту; ейная вартасьць нейкі час раўнялася расейскаму (савецкаму) рублю. У дадзены момант абое можна было выкарыстаць як сродак абмену, хаця ў мяне было пачуцьцё, што й простым тавара-абменам такама карысталіся – як сродкам здабыцьця патрэбных тавараў – асабліва харчоў. Адначасна зьявілася нястрымная спэкуляцыя; у асяродзьдзі няпэўнасьці кажны чалавек прадчуваў вартасьць цьвёрдае валюты – і стараўся яе набыць. Нефармальныя абменныя пункты рублёў на даляры зьяўляліся ад вуліцы да вуліцы, ад рынку да рынку. Улады проста ня былі ў стане ўтрымоўваць ранейшую савецкую, штучна высака настаўленую вартасьць іхрубля. З прыходам вясны, а пазьней лета, рамесьнікі ды наагул, усе з ходкім таварам на продаж, напаўнялі рынкі, асабліва на і ў аколіцы футбольнага рынку ў Менску; усе яны займаліся гандлем з чужынцамі – ды з усімі людзьмі з цьвёрдай валютай.

Цямнейшы бок усякага грамадзтва таксама хутка зьявіўся. Як і ў рэшце былога Савецкага Саюзу, адначасна вырасьлі мафіёзныя структуры. У гэтых людзей былі грошы, хуткія аўтамабілі, алькаголь. і – зброя. У іх напэўна засталіся шчыльныя сувяз з ранейшай прывілеяванай клясай – камуністычнай намэнклятурай ; яны бяссумлеву здолелі пабольшыць гэтыя выгоды з дапамогай паўсюдных прыладаў злачынных клясаў: шантажу, хабару, пагрозаў і г.д.

Таксама была проста злосьць. Яе можна было асабліва адчуць сярод нова створанага беларускага войска; усе яны ведама былі савецкія вайскоўцы. Вобразна прыгадваю візыту аднае вайсковае базы ля Менску з амэрыканскай дэлегацыяй; мы там сустрэлі палкоўніка, як, здецца выражаў нэтую злосьць. Ён меў за сабою больш за дваццаць год службы – уключна баявой у Афганістане , цяпер ён быў змушаны жыць разам з сям'ёю ў шматпавярховых казармах – з супольнай кухняй і прыбіральняй у канцы кажнага паверху. Пытаньне вайсковага жыльля, асабліва для афіцэраў, стала вялікай палітычнай справай.

Мы пабачылі гэту злосьць крыху бліжэй пры перамовах аб маемасьці амбасады. Паколькі Злучаныя Штаты былі першай краінай, якая прызнала незалежнасьць Беларусі, нам было ўдзелена права першага выбару месца амбасады. Нам паказалі два будынкі; адзін зь іх, непараўнальна лепшы, быў рэзыдэнцыяй каманлуючага афіцэра савецкіх збройных сілаў у Беларусай Ваеннай Акрузе. Пры нашай інспэкцыі будынку, я заўважыў, што нас назіраў нейкі вайсковы афіцэр. Гэта, аказалася, і быў былы камандуючы савецкі генэрал; гэта й была ягоная рэзыдэнцыя. Ён адмовіўся з намі гаварыць. Урэшце мы арэндавалі будынак; перад тым, як мы яго перанялі, усё было вынесена зь яго сярэдзіны, апрача аднаго багата ўпрыгожанага більярднага стала й да яго прыналежнасьцяў. Калі нас пыталіся, ці яго хочам, я адразу згадзіўся. Пазьней я часта зьдзіўляўся, колькі надзвычайна важных ваенных рашэньняў было прынята за гэтым сталом, прыкладам у справе магчымае інвазіі Польшчы пры тагачасным уздыме руху Салідарнасьці.

У сярэдзіне красавіка 1992 г. урад Беларусі пастанавіў падняць цэны паліва, энэргіі, транспарту, лекаў, і гарэлкі. Урад гэта бяссумлеву правільна выясьняў

“рэзкім павышэньнем“ пастаўкі энэргіі, якую Расея прадавала Беларусі па “вольных цэнах.“ У выніку гэтага падняліся кошты рэфінаваньня пастаўленай энэргіі, транспарту й камунальных службаў. (Праўдападобна вышэйшыя цэны гарэлкі былі павінны стрымаць растучы алькагалізм – важнае пытаньне ў пасьля-савецкім непарадку.) Адначасна ўрад паведаміў пра свой намер субсыдыяваць пастаўку энэргіі й залежныя ад яе службы, г.зн. масавы транспарт. Адзін урадавы чыноўнік заўважыў, што, калі-б цана бялета на гарадзкім аўтобусе ( тады 40 капеек) адлюстроўвала запраўдны кошт службы, дык цану бялета трэба было-б падняць 11, 5 разоў.

На шчасьце, Беларусь атрымоўвала карысьць з параўнальна высокага жыцьцёвага ўзроўню, прынамсі ў савецкім кантэксьце. У Беларусі быў таксама высокі ўзровень адукацыі й навуковых дасягненьняў, што адлюстроўваў факт, што ў савецкім пэрыядзе кампютарная й радыё-ТБ прамысловасьць былі засяроджаныя тут. Беларусь таксама вырабляла высока якасныя трактары й грузавікі, зноў у параўнаньні з агульна савецкімі нормамі. Таксама ваенна-прамысловы сэтар быў моцны ў Беларусі. Адмоўным бокам усіх гэтых фактараў было тое, што грамадзтва Беларусі было глыбака прасякнута Расейцамі. Вынікам гэтага быў шэраг складаных праблемаў, якія ўсплылі калі маладая незалежная дзяржава спробавала клясыфікаваць сваю мне асабіста нацыянальную тоеснасьць і сымбалі.

Нашы дачыненьні з урадам былі, з большага, дасканальныя. Першым беларускім кіраўнікам дзяржавы быў старшыня Вярхоўнага Савету Станіслаў Шушкевіч – паводля савецкай практыкі ды пры адсутнасьці новай канстытуцыі . Ён трапіў на гэту пасаду пасьля няўдалае спробы перавароту супраць Гарбачова, якую папярэдні старшыня Мікалай Дземянцей, падтрымаў. Шушкевіч і я сталі блізкімі сябрамі – і засталіся імі дагэтуль. Нажаль, старшынства Вярхоўнага Савету было зьвязана зь мінімальнай палітычнай сілай- як у Беларусі, так і ў Маскве. Ведама, паводля камуністычнага ладу, найвышэйшая моц была ў руках Першага/генэральнага Сакратара Савецкага Саюзу. У пасьля-савецкай Беларусі запраўдная моц была ў руках старшыні Рады Міністраў, або прэм’ера, якім быў у дзень абвешчаньня незалежнасьці Вячаслаў Кебіч.

Адзін цяпер пацешны, а тады мне асабіста вельмі няёмкі выпадак адбыўся ў дзень ўручэньня маіх амбасадарскіх даверчых лістоў Шушкевічу, як тытульнаму кіраўніку дзяржавы. Мая жонка й я ўжо сядзелі ў аўце нашай амбасады , гатовыя ехаць на месца цырымоніі – з лунаючым сьцягам і суправаджэньнем афіцыйных беларускіх машынаў. Раптам, ужо будучы на палавіне дарогі да месца, я сабе ўсьведаміў, што мае даверчыя лісты засталіся на амбасадзе. Я загадаў майму кіроўцу павярнуць назад – на амбасаду. І ўся кавалькада павярнулася, паехала назад, па забытыя мною дакуманты. На месца цырымоніі мы дабраліся засопшыся – і са спазьненьнем. Ня гледзячы на ўсе перашкоды, Шушкевіч выказаў узорную прыязнасьць і добрую волю – прывітаў забыўлівага амбасадара з жонкай – быццам нічога ня здарылася.

З набыцьцём незалежнасьці Беларусь, так як Украіна, мела тую выгаду, што ейнае міністэрства замежных справаў было ўжо поўнасьцю дзейнае. Гэта было магчымае таму,што абедзьве рэспублікі былі фармальна заснавальнымі сябрамі Злучаных Нацыяў – у выніку змовы, якую тады здолеў прапіхнуць Сталін – і якая дала Савецкаму Саюзу тры галасы ў Злучаных Нацыях – замiж аднаго. У 1992 г. міністрам замежных справаў Беларусі быў Пётра Краўчанка, былы савецкі “апаратчык,“ які першым чынам прапагаваў сябе. Ён быў падначалены Кебічу, не Шушкевічу. Спачатку Краўчанка выдзяляў добрую волю ў дачыненьні да мяне й майго пэрсаналу; ведама, мы гэтым-жа й адплачвалі. Аднак, з цягам часу я сабе ўсьведаміў, што Краўчанка прапагаваў у першую чаргу сябе й свае пляны, ня пляны нацыі. Таксама, Краўчанка ведаў, што я маю неабмежаваны доступ да ягонага шэфа Кебіча, які ня раз, дзякуючы маёй настойлівасьці, адмяняў працэсы, прапіханыя Краўчанка.

Адзін асаблівы момант надыйшоў у канцы вясны 1993 г., калі Прэзыдэнт Клінтан запрасіў Старшыню Шушкевіча наведаць яго ў Вашынгтоне. Гэта быў знак павагі на аснове факту, што Беларусь была першай з трох нерасейскіх пасьля-савецкіх рэспублікаў, якая пазбылася ядзернае зброі, што засталася на ейнай тэрыторыі ў канцы 1991 г. Краўчанка тады пробаваў – праз тагачаснага амбасадара Беларусі ў Вашынгтоне – Сяргея Мартынава, даслаць у Дзярж-Дэпартмэнт ЗША і штаб Рады Нацыянальнае Бясьпекі – вымысел, што Шушкевіч ветліва адхіляе запросіны Прэзыдэнта Клінтана. Гэта была, ведама, недарэчнасьць. Я зараз-жа пра яе даведаўся – і плянаваная візыта была адноўленая.

Я выехаў зь Беларусі скора пасьля супольнага са Старшынём Шушкевічам прывітаньня Прэзыдэнта Клінтана й сп-ні Клінтан у Менск, у студзені 1994 г. Было-б прыемна сьвердзіць, што запраўдное адраджэньне тады ўжо запусьціла карані ў Беларусі; нажаль, карані ня былі яшчэ даволі глыбокія. Парляманцкі пераварот выціснуў Шушкевіча пару дзён пасьля візыты Клінтана. Гэтыя падзеі самі сабой заслугоўваюць асьцярожных разглядаў і рэпартажаў; іх ужо нельга зьмясціць у межах гэтага артыкулу. Пачынаючы прэзыдэнцкімі выбарамі ўлетку 1994 г., пачалася плынь назад (recidivism). Яна працягваецца дагэтуль. Але запраўдное адраджэньне было толькі перапынена на нейкі час. Ягоны дзень прыйдзе.

Гэты артыкул быў перш надрукаваны па-ангельску ў часапісе *Belarusian Review*, № 243 (Fall 2012)



*Дэйвід Сўортз –першы амбасадар ЗША ў Беларусі*

## Беларусы Эўразьвязу

# КАСТРЫЧНІК У ТБК ЛІТВЫ

*Алесь Адамковіч.*

7 кастрычніка споўнілася 225 гадавіна з дня нараджэньня аднаго з найбольш значных беларускіх мовазнаўцаў і этнографаў XIX ст. Івана Іванавіча Насовіча. Хаця гэтае імя збольшага вядома вузкаму колу мовазнаўцаў, яго ўклад у разьвіцьцё беларускага мовазнаўства неацэнны і яго асоба знаходзіцца ў адным шэрагу з Янкам Купалам і Якубам Коласам.

Для беларусаў асоба Івана Насовіча значыць тое самае, што Уладзіміра Даля для расейцаў з той розьніцай, што Даль вядомы кожнаму школьніку, чаго не скажаш пра нашага вучонага-лінгвіста. Што ж, доўгі, цяжкі і пакутлівы шлях вяртаньня ў айчынную культуру і грамадзкасьць беларускіх дзеячаў, асьветнікаў, патрыётаў.

Галоўная заслуга Івана Насовіча ў выданьні ім слоўніка беларускіх гаворак, над якім аўтар працаваў больш за 20 гадоў. У ім сабрана каля 30 000 слоў жывой беларускай мовы.

І яго вартасць пераацаніць немагчыма, асабліва сёньня, бо апынуліся ў такім стане, што зьнікаюць самі носьбіты беларускай мовы, многія словы проста выйшлі з ужытку, а шмат якія былі выцесьненыя паланізмамі і русізмамі. І таму гэта – крыніца беларускай мовы, жывая, сапраўдная мова, да якой трэба зьвяртацца і з якой чэрпаць і вывучаць мову, а не карыстацца прынцыпам, абы ня так, як у рускай ці польскай мове. І такім чынам мы зможам папаўняць нашу лексіку, узбагачаць яе прабеглымі прадзедаўскімі днямі і вяртацца да сваіх вытокаў.

1 кастрычніка старога стылю (13 кастрычніка новага) споўнілася 125 гадоў з дня нараджэньня бадай ці не самага вялікага беларуса XX ст. мастака-вандроўніка Язэпа Драздовіча. Нарадзіўся на Дзісьненшчыне ў з. Пунькі ў сям’і беззямельнага шляхціча. Ужо з самага маленства сазнаў бядоту, голад і вандроўны лад жыцьця. Калі хлопчыку было два гады – памёр бацька. Сям’я, каб неяк пражыць, была змушана вандраваць ад вёскі да вёскі, дзе бралі ў арэнду зямлю і з гэтага жылі. Але сялянскае жыцьцё не надта вабіла малога Язэпа, ён цікавіўся космасам, навукай і мастацтвам. Маці ня стала супярэчыць жаданьням сына і сказала: „Вучыся, сынок, і пазнай нябесныя бегі“. У нечым Язэп выканаў запавет маці.

Большасьць свайго жыцьця ён прысьвяціў разгадкам таямніц касмічнай прасторы. Пасьля яго засталіся тысячы лістоў разважаньняў пра сусьвет, пра заселенасьць планет жывымі істотамі і сотні карцін пра жыцьцё на іншых планетах.

Знакаміты Драздовіч і сваёй асьветніцкай дзейнасьцю. Працаваў выкладчыкам у Віленскай, Наваградзкай, Радашковічаскай беларускіх гімназіях. Працаваў настаўнікам маляваньня і рысаваньня і ў школах Глыбокага, Лужак.

Значную частку свайго жыцьця прысьвяціў даследаваньню жыцьця беларусаў і захаваньню помнікаў іх матар’яльнай і духоўнай культуры. Ён не адзін раз рабіў вандроўкі-экспедыцыі, дзе замалёўваў навакольныя вёскі, цэрквы, касьцёлы, каплічкі, крыжы, запісваў мясцовы фальклор і мясцовую лексіку. Вельмі шмат палотнаў прысьвечана роднай Дзісьненшчыне.

Акрамя гэта Драздовіч вядомы як і пачынальнік гістарычнай тэматыкі ў беларускім мастацтве. Гэта ён першым уваскрасіў легендарнага палачаніна Полацкага князя Ўсяслава Чарадзея, другога легендарнага палачаніна – Францыска Скарыну. На яго палотнах ажылі дзеі тысячагадовай беларускай мінуўшчыны. Нягледзячы на гэта яго ўласны лёс ня склаўся. Памёр у страшэннай галечы, пакінуты ўсімі.Але не пераставаў верыць у Беларусь. У адным са сваіх вершаў пісаў

:Беларусь мая, наша родная,
Ты ізноў сабой несвабодная.
На правы твае навалiліся,
Між сабой табой падзяліліся.
Ня шукай ад іх к сабе літасьці –
Ня было й ня быць справядлівасьці.
Хоць бы баялі, мы ня ворагі –
Но правы твае ім ня дорагі.

Прайшлі доўгія дзесяцігодзьдзі. Самая вялікая мара Я. Драздовіча споўнілася – чалавецтва пераадолела зямную абалонку і наведала космас. Сёньня ўжо палётам ў касьмічнае бязьмежжа нікога ня здзівіш.

Думаю, пройдуць яшчэ гады і імя Драздовіча зойме належнае месца ў слаўным пантэоне беларускіх герояў.

---

# Пра Марыяна Пецюкевіча – беларускага этнографа, грамадзкага дзеяча, і асьветніка

*распавёў Хведар Нюнька .*

Нарадзіўся 24 верасьня 1904 г. на Браслаўшчыне ў многадзетнай малазямельнай сям’і. Скончыў вясковую пачатковую школу. Дзякуючы дапамозе беларускіх ксяндзоў паступіў у Віленскую беларускую гімназію, якая выхавала яго ў духу беларускай нацыянальнай сьвядомасьці і патрыятызму.

Пасьля вайсковай службы ў польскім войску Марыян Пецюкевіч паступіў у Віленскі ўніверсытэт, дзе вывучаў этнаграфію і археалёгію (магістар філязофіі). Яшчэ будучы студэнтам, працаваў у бібліятэцы Ўрублеўскіх. Тут меў магчымасьць у спецфондах знаёміцца з забароненай літаратурай і знаёміць зь ёю беларускіх сяброў.

Усё яго жыцьцё было зьвязана з беларускай грамадзкай дзейнасьцю: Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры, сябра Беларускага Навуковага Таварыства, рэдактар часопісу “Шлях молодзі”, вёў перадачы па беларуску на Віленскім радыё, быў прадапошнім дырэктарам беларускага музею Івана Луцкевіча, падчас вайны працаваў школьным інспектарам у Ашмянскім раёне Беларусі, удзельнічаў ў Беларускім Нацыянальным Камітэце ў Вільні (абарона беларусаў

перад нямецкімі ўладамі), актыўна супрацоўнічаў у газеце “Беларускі голас” пад рэдакцыяй Францішка Аляхновіча.

Верны сваім перакананьням і каханьню любай Вільні за сумленную працу беларускаму народу Марыян Пецюкевіч быў пакараны акупацыйным камуністычным рэжымам турмой і зсылкай на доўгі час у Сібір.

Вярнуўшыся, пасьля хрушчоўскай адлігі ў Вільню, ня змог уладкавацца на працу і прыпісацца (враг народа), вымушаны быў выехаць у Польшчу. Там, у горадзе Торунь, уладкаваўся на працу па спэцыяльнасьці ў этнаграфічным музеі. Быў там у вялікай пашане з боку кіраўніцтва і супрацоўнікаў за сваю парадачнасьць і прафесыйную працу. Пражыў там да 1983 году. Пасьля сьмерці быў пахаваны на могілках Торуні, нажаль, удалячыні ад любай яму Вільні.

Марыян Пецюкевіч перадаў сваю любоў да Беларусі дачцы Марылі, якая сьвята захоўвае памяць пра дарагога бацьку. Рабіла і робіць усё магчымае (кнігі, кампакт-дыскі, сустрэчы), каб памяць пра слаўнага сына беларускага народу захаваць на доўга ў памяці і сэрцах беларусаў.

Вось словы Марылі “ Калі ў 1983 г. яго ня стала, я кранулася ў труне яго вачэй. Адчула застылыя бурштыновыя сьлёзы апошняго яго плачу па Беларусі”

Неабходна адзначыць, што род Пецюкевічаў, якія жывуць у Менску і іншых гарадох Беларусі захоўваюць беларускасьць у мове і сэрцах , і гэта радуе. Значыць ня ўсё яшчэ загублена. Значыць - Жыве Беларусь !

Пра Марыяна Пецюкевіча ТБК у Літве выдала, сярод іншых, асобную кнігу на 280 стар. “Трагічныя ніткі лёсу беларускага патрыёта”. А ў верасьні 2014 года спэцыяльнай імпрэзай адзначыць 100 год.з дня нараджэньня.


**KRYVIJA**

**časopis běloruské diaspory v České Republice**

- **četnost vydávání: 4 krát ročně**
- **místo vydávání: Praha**
- **číslo vydání: 31**
- **den vydání: 30 listopadu 2013**
- **evidenční číslo přidělené Ministerstvem Vnitra: MK ČR E 16919**
- **název vydavatele: občanské sdružení PAHONIA**
- **sídlo vydavatele: ul. 5 května 1043/32, Praha 4, 140 00**
- **identifikační číslo (IČO) vydavatele: 27038491**





**Belarusian Review**

is the oldest continuously published journal in English language fully devoted to Belarus: to its current political and economic situation, culture and history, as well as to Belarusian diaspora.

Already for 25 years ***Belarusian Review*** has been fully filling this niche, both as a printed journal and since 2011 as an electronic edition made in cooperation with ***The_Point Journal***, **(http://thepointjournal.com)**providing a broad audience interested in Belarusian matters with journalist, analytical and scholarly texts.

People ranging from U.S. senators to European MPs to students in libraries in the United States and Europe, to Belarusians in their home country read the journal.




Z této webové stránky si můžete stáhnout :
* archivní čísla ***Belarusian Review***
* archivní čísla časopisu **KRYVIJE**

З гэтай старонкі можна сьцягнуць:
* архіўныя нумары ***Belarusian Review***
* архіўныя нумары **КРЫВІІ**


**Kontaktní adresa redakce časopisu KRYVIJA:**

**jurka.stan@gmail.com**

*(Jurka Stankievič)*

---------------------------------------------------

**Кантактны адрас рэдакцыі часапісу КРЫВІЯ:**

**jurka.stan@gmail.com**

*(Юрка Станкевіч)*